Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 22—(62). Вільня, 16 чэрвеня 1928 году.



# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $^1/_2$ — 65, за $^1/_4$—35, за $^1/_8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Сэктанты.

Сэктай называецца новы напрамак рэлігійнай думкі, які адкідае адзін ці некалькі характарных для яе догматаў, або, пакідаючы догматы непарушнымі, прымае толькі іншыя вонкавыя формы абраднасьці.

Сэкты зьяўляюцца праявамі хваравлівасьці рэлігійнага пачуцьця.

Паўставалі яны найчасьцей на грунце асабістых непаразуменьняў і амбіцыяў кіраўнікоў рэлігійнае думкі.

Але сэктанты бываюць ня толькі на грунце рэлігіі. Асабліва ў сучасным культурным грамадзянстве, дзе сфэра веры і рэлігіі прызнана прыватнай справай грамадзяніна, як неадлучная частка яго індывідуальнае свабоды, няма месца на рэлігійнае сэктанства.

Цяпер другія галіны высоўваюцца на чало публічнага і грамадзкага жыцьця. А там вельмі часта спатыкаемся з сэктамі.

Кожная сэкта заяўляе перад усім, што толькі яна мае манаполь на праўду, толькі яе вызнаўцы справядлівыя і добрыя людзі, якім прыгатавана царства нябеснае. Усе іншыя людзі нягодныя званьня людзей, усе яны служкі чорта і яго цёмнага царства.

Іх трэба нішчыць агнём і вадою.

Усе сэктанты фанатычныя, суровыя, неміласэрныя людзі, якія ў барацьбе з праціўнікамі, прызнаюць годнымі ўсе спосабы змаганьня і нішчэньня,

Сэктанства пануе ў сучасным грамадзкім і палітычным жыцьці.

Асабліва-ж хварэе на яго нашае беларускае жыцьцё. Яшчэ да нядаўна была адна „беларуская вера“, але ўжо ад 1924 г., а мо' і раней, патварыліся палітычныя сэкты з „прарокамі“ на чале, якія распарцэлявалі нашае грамадзкае жыцьцё і грамадзкую думку. Бо сэктанты ненавідзяць і думкі, яны ворагі свабоднае мысьлі і переканаьня. Гэта сярэднявечныя інквізытары, адно што бяз улады і магчымасьці паліць сваіх ворагаў агнём і наварочваць на сваю „веру“ мукаю вады.

Нашыя палітычныя сэкты створаны хваравітай амбіцыяй людзей, якія ня ўмелі паразумецца на грунце супольнае грамадзкае працы.

Аб'явіўшыся „лжэ-прарокамі“ народнага дабра і інтарэсаў працоўных масаў, нашыя сэктанты прыдбалі сабе па некалькі асобаў староньнікаў, выбілі ім з галоваў здольнасьць лёгічнага разумаваньня і, замест здаровага грамадзкага розуму, напічкалі галовы свае чэлядзі „канонамі“ сэктанскае думкі.

Ходзіць цяпер гэткая адна, другая і трэцяя чалядка, група безгаловых авечак і жыве тым, што выйдзе з „прарочага“ натхненьня кіраўніка сэкты.

Усе без малога нашыя палітычныя партыі, гэта толькі „сэкты“, збудаваныя на аўтарытэце, безгалосным прекланеньні перад „прарокамі“ і іх асабістымі справамі.

І грызуцца паміж сабою „прарокі“, памагаюць ім у барацьбе верныя і адданыя авечкі, што ідуць у бой за сваімі павадырамі і гэтую грызьню называюць палітычнаю, а нават грамадзкаю работаю.

Адны з гэтых сэктаў завялі чырвоную, другія чорную, трэція бел-чырвона-белую вопратку,

але ўсе яны аднолькава шкодныя, усе пасэктанску нягодныя і ўсе зьяўляюцца чэлядзяй авечак, якія ідуць за сваімі важакамі, няздольныя да свабоднае думкі, самакрытыкі і шырэйшага сьветапагляду.

Усе гэтыя нашыя сэкты строга цэнтралізававаны, з падзелам на сэктанскія ступені на чале з непаграшымымі лжэ-прарокамі.

Усё грамадзкае жыцьцё распарцэлявана гэтай сэктанскай хваробай, якое мікробы апаноўваюць нават моладзь, бо і яна пачала паддавацца моднай пошасьці.

Да апошняга часу не паддаваліся сэктанству нашыя бдларускія студэнты, хоць кожная сэкта хацела загарнуць іх у свае рады. Студэнты інстынктыўна адчувалі небясьпеку сэктаў, якія адбіраюць волю і свабоду думкі, найвялікшага скарбу моладзі.

Беларускі Студэнскі Саюз да апошняга часу быў чысты ад сэктанскае гэрэзіі нашага грамадзкага безгалоўя. На грунце Саюзу маглі спатыкацца прадстаўнікі ўсіх сэктаў, (ведама, гэтыя, з авечых чалядак), спатыкацца і пазнаваць ману і ашуканства сваіх павадыроў, якія аб'яўлялі ўсіх іншых небеларусамі.

Але і гэтая апошняя беларуская арганізацыя пачала паддавацца мікробам нашае хваробы. Разьвяліся і там сэкты, пачалася парцэляцыя студэнскае арганізацыі.

Мала быць беларусам студэнтам, трэба ўжо быць адным з чалядкі бязмозглых авечак, якія ня думаюць, не крытыкуюць, а толькі хваляць і слухаюць.

Павадыры, лжэ-пракокі сьмяюцца з вучнёўскае студэнскае моладзі, робяць добрыя міны ў паскуднай ігры, але свайго дапялі, маюць верныя душы янычараў, гатовых на ўсё ў імя догмату свае сэкты.

Паясьнімо на прыкладзе. Ёсьць у Чэскай Празе Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў, г. зв. АБСА. АБСА паўстала ў імя барацьбы з сэктанствам, якое панавала ў Празе і яе віталі ўсе вольныя ад сэктанскага мікробу.

Прыслала АБСА таму ці іншаму сваю групавую фатаграфію. І вось, сярод сяброў Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні, вялікі перапалох — як АБСА, „наш" канон і сьвятыня, паслаў фатаграфію таму, хто не належыць да сэкты? „Грэх"! Пішуцца тады лісты і запытаньні, чаму? якім правам? і пашто фатаграфія АБСА, сьвятыня і рэлiквія нашае сэкты, аказалася ў руках, далёкіх ад якое-колечы сэктанскае гэрэзіі?

На шчасьце сэктанства пануе толькі ў Вільні, сярод тутэйшых „павадыроў" з мандатамі, і бяз іх, сярод „навучоных" і „ненавучоных". За межы Вільні ў масы яно не даходзіць і не дайдзе, бо масы маюць свой здаровы гаспадарскі розум, а ён найвялікшы вораг і абарона ад дзікага грамадзкага сэктанства.

Пакуль нашая віленская інтэлігэнцыя не пазбудзецца свае сэктанскае хваробы, датуль яна не знайдзе супольнага языка з масамі, бо яны ніколі не зразумеюць хворых на сэктанскі шовінізм людзей.

## Прысылайце падпіску!

Усім падпісчыкам, якія да 1 ліпня не аплацілі падпіскі, далейшая высылка газэты будзе спынена.

# Успаміны з Пэрсіі.

*Часьць II.*

Прасторы Пэрсіі, абымаючыя Іранскае плоскаўзвышша, маюць клімат гарачы і сухі. Дажджы тамака выпадаюць вельмі рэдка і зьяўляюцца вялікім сьвятам для людзей.

Рэкаў таксама небагата, ды працякаюць яны ў стромкіх скалістых міжгор'ях, у месцах, няпрыгодных для хлебаробства, і дзеля гэтага з браку вільгаці ўсе гэныя аграмадныя абшары маглі-б зрабіцца бясплоднай пустыняй, каб пэрсы ня ўмелі карыстацца з тых невялічкіх ручайкоў, якія, зьбягаючы з гораў срэбнымі ўстужкамі, зьяўляюцца адзінымі крыніцамі вільгаці і нясуць з сабою жыцьцё ўсёй краіне.

А глеба Ірану, за малымі выняткамі, пладавітая, ўсюды амаль, дзе толькі ёсьць вада — яна дае багаты ўраджай і шчодраю рукою зьвяртае чалавеку працу, патрачаную ім на давядзеньне вады.

І вось дзеля гэтага ўсе натугі пэрсыдзкага народу на працягу некалькіх тысячагодзьдзяў яго існаваньня скірованы былі на тое, каб запасы вільгаці невялічкіх вадаёмаў разьвясьці па ўсіх месцах прыгодных для хлебаробства.

Барацьба пэрсыдзкага народу з прыродай за ваду, барацьба ўпорная, пачатая тысячы год таму назад, вядзецца і цяпер і ня прыстае ні на адну хвіліну.

У барацьбе гэнай чалавек павінен дбаць ня толькі аб тым, каб ваду з далёкіх горных рэчак давясьці да поля на адлежнасьці іншы раз некалькіх дзесяткоў і болей кілёмэтраў, але і схаваць яе ад праменьняў гарачага паўднёвага сонца, якое па дарозе магло б выпарыць яе раней, чым вада дайдзе да месца свайго назначэньня.

Сьляды гэтае аграмаднае працы, працы цэлых пакаленьняў, можна бачыць і цяперака на кожным шагу, у постаці сеці пад'земных тунэляў, прарэзваючых абшары Ірану ў розных кірунках.

Па тунэлях гэных, пад зямлёю працякае вада. Месца, дзе праходзяць яны, распазнаць мож-

# Да беларускага грамадзянства і беларускіх установаў у краі і заграніцай.

### Адозва Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні.

Кожны, хто быў у Вільні ці жыве ў Вільні, калі заходзіў у Беларускія культурна-асьветныя установы, то мусіў пераканацца, што жыцьцё гэтых установаў не такое лёгкае, а вонкавы выгляд іх не такі прынадны. Прычын да гэтага трэба шукаць у дрэнным матар'яльным стане і ў няспрыяючых для разьвіцьця беларускіх культурна-асьветных установаў варунках. Кожная такая ўстанова мусіць плаціць вельмі дарага за памешканьне, часамі і зусім неадпаведнае, але ўзятае дзякуючы таму толькі, што сходнае па цане; вельмі часта тая ці іншая ўстанова перажывае цэлыя судовыя працэсы за памешканьне і стаіць перад магчымасьцю выкіненьня на брук (Віленская Беларуская Гімназія, Беларускае Навуковае Т-ва, Беларускі Музэй). А гэта-ж добра ведама, што пазбаўленьне адпаведнага будынку такіх установаў, як Гімназія ці Музэй, раўнасільна зачыненьню іх. Такім чынам высілкі некалькігадовай працы могуць пайсьці за нішто ў адзін дзень, і награмаджаныя гэтай працай беларускія культурна-навуковыя цэннасьці могуць згінуць. І гэта ўсё робіцца ў Вільні, у гэтым найвялікшым цэнтры нацыянальнага і культурнага жыцьця Заходняй Беларусі! У гэтай Вільні ніводная беларуская установа ня мае свайго ўласнага будынку, ня то што адпавядаючага заданьням яе, але ніякага будынку ня мае!

Але з усіх установаў найбольш цярпіць з прычыны адсутнасьці свайго ўласнага адпаведнага будынку Беларускае Навуковае Т-ва ў Вільні і Белар. Музэй пры ім. І мала таго, што цярпіць, далейшае трываньне такога стану рэчаў можа прывясьці да поўнай катастрофы Белар. Навуковага Т-ва, а асабліва Музэю.

Т-ва мае свой цэнны кнігазбор, бібліятэку, Беларускі Музэй, мае шмат экспанатаў, вельмі цэнных і вельмі рэдкіх і багацейшую бібліятэку беларусазнаўства... І ўсе гэтыя рэчы над'звычайнай цэннасьці, ляжаць зьвязаныя і запакованыя ў пяцёх пакоях цяперашняга памешканьня, сырога і няпрыдатнага. Такім чынам цяперашні Музэй прадстаўляе сабою ня Музей, а склад музэйных рэчаў, зваленых і запакованых і то хутка ўжо ня будзе дзе класьці новапаступаючых экспанатаў, якія прыбываюць з кожным днём і з усіх бакоў.

У такім самым стане знаходзіцца і беларускі архіў. Такім чынам музэйныя і архіўныя цэннасьці ня толькі ня могуць быць даступнымі грамадзянству, але яны ў такім стане нішчацца, бо завалены ў цесным, сырым і неадпаведным памешканьні.

Але-ж Беларускае Навуковае Т-ва ў Вільні працуе не дзеля таго, каб сабраныя ім музэйныя і архіўныя экспанаты і бібліятэка прадстаўлялі сабой музэйна-архіўны склад, яно працуе дзеля таго, каб з гэтых экспанатаў утварыць музэй, архіў і бібліятэку, даступную для грамадзянства і дзеля навуковых мэтаў. І калі да гэтага часу Т-ва не зрабіла музэю бібліятэкі і архіву даступным для грамадзянства і навуковых дасьледчыкаў —дык толькі дзеля таго, што ня мела адпаведнага на гэта памешканьня і сродкаў, патрэбных на арганізацыю.

А ўжо найвышэйшы час правясьці ў жыцьцё гэтыя праекты. Дзеля гэтага Белар. Навуковае Т-ва на сваім апошнім сходзе пастанавіла: зрабіць усе высілкі, каб набыць адпаведны ўласны будынак дзеля ўспомненае мэты. Само Навуковае Т-ва зьяўляецца занадта беднай установай, каб магло пабудаваць ці купіць адпаведны будунак. Але што ня змогуць адзінкі, чаго ня зможа адна арганізацыя, то зможа грамадзянства, увесь беларускі народ.

Дзеля гэтага Беларуск. Навуковае Т-ва пастанавіла зьвярнуцца з заклікам да ўсіх беларускіх культурна-асьветных установаў, да ўсіх працаўнікоў на ніве беларускай культуры, да ўсяго беларускага грамадзянства, да ўсяго беларускага народу! Калі Беларускае Навуковае Т-ва ня можа пабудаваць ці набыць свайго ўласнага дому, Дому Культуры — дзе-б мясьціўся і музэй і бібліятэка, і архіў, хай сам народ сам сабе пабудуе такі „Дом Беларускае Культуры“ ў адным з найвялікшых

---

на здалёку па лініі бугаркоў, паложаных адзін ад аднаго на адлежнасьці 50-60 мэтраў, якая цягнецца далёка-далёка, ажно прападае недзе за скатам зямлі. Падышоўшы да гэткага бугарка, вы ўбачыце, што бугарок гэны нішто болей, як земляны вал, акружаючы выхад больш ці менш глыбокай студні, выкапанай бяз зрубу, на дне якой блішчыць вада. Зы-споду студні гэныя злучаны паміж сабою кароткімі калідорамі, каторыя разам твораць адзін доўгі тунэль.

Адзін канец гэнага тунэлю, паложаны вышэй, злучаны з якім-небудзь вадаёмам, з якога ўліваецца ў тунэль вада і, прайшоўшы ўсю даўжыню яго, выходзіць ў адпаведным месцы на поле, і там ужо разьліваецца па цэлай сеці наземных каналаў.

Калі прымем пад увагу, што ўся гэная работа была зроблена без якіх-небудзь машынаў і струмэнтаў, вядомых сучаснай тэхніцы, то тады толькі зразумеем, якая аграмадная праца ўложана ў гэную работу чалавекам.

Так, вада — гэта вялікае багацьце для кожнага Іранца. Для разьдзелу вады паміж паасобнымі палямі, істнуе ў пэрсаў спэцыяльны ўрад. Ён вырашае, калі і колькі вады пусьціць на тое ці іншае поле. Пушчаюць яе на поле найчасьцей уночы, каб яна не ўцякла да неба.

Гаспадары чакаюць гэнага важнага мамэнту з некай набожнай трывогай. Калі ўбачаць, што вада ўжо ідзе, работнікі з лапаткамі бягуць разам з ёю і расчышчаюць тыя месцы ў сваіх напольных каналах, дзе ёй трудна прасачыцца, папраўляюць іх, адным словам, дбаюць аб тым, каб магчыма больш вады выпіла іх поле.

Чым зьяўляецца для жыхароў Ірану вада, відаць з таго, што замагільнае жыцьцё, пасьля сьмерці, яны разумеюць, як адпачынак у раскошных садох на беразе рэчкі.

І любяць яны ваду страшэнна! У Казьвіне, калі вечарамі па каналах гораду праплывае вада, берагі іх абступаюць людзі і, прысеўшы, цешацца ёю як дзеці: адны мыюць у ёй рукі, іншыя апусьцілі ў яе ногі, ізноў іншыя прыгаршчамі чэрпаюць яе, мыюць сабе твары і... п'юць. Так, п'юць

сваіх культурных і нацыянальных цэнтраў—у Вільні. Заграніцай можна вельмі часта спаткаць грамадзкія і культурна-асьветныя будынкі з надпісам: „Народ сам сабе“. Дык ці-ж ня могуць беларусы здабыцца на адзін з такіх будынкаў у Вільні — „Дом Беларускае Культуры“?

І тутэйшыя беларусы, з Заходняй Беларусі і беларусы з Усходняй Беларусі, і беларусы на эміграцыі ў Эўропе і ў Амэрыцы і ў іншых краёх, усе, у каго ёсьць хоць крыху сьвядомасьці патрэбы разьвіцьця беларускае культуры, мусяць ахвяраваць хоць што-нібудзь на вялікую справу!

Ні межы, ні найвялікшыя прасторы, аддзяляючыя ад Вільні, ні розьніца палітычных перакананьняў — ня могуць быць перашкодай у такой вялікай і сьвятой справе, усе, хто толькі можа, ахвяруйце і прышлеце.

Усе беларускія арганізацыі і установы просім зьвярнуцца да сваіх супрацоўнікаў і сяброў з прапановай адлічаць пэўны процант на Дом Беларускае Культуры ў Вільні.

Асоб, прачытаўшых гэту адозву, просім споўніць гэты неадкладны грамадзкі абавязак, а адозву перадаць сваім суседзям і знаёмым, заахвочваючы іх зрабіць тое-ж самае.

Усе беларускія часопісі і газэты просім перадрукаваць гэту адозву і памагчы такім чынам пашырыць яе ў беларускім грамадзянстве.

Справаздачы аб паступленьні ахвяраў на „Дом Беларускае Культуры ў Вільні“ ад часу да часу будзем даваць у беларускіх газэтах і часопісях.

Ахвяры просім скіроўваць на адрэс: Wilno, Wileńska 8, Białoruski Bank Kooperacyjny konto 17.

**Увага:** Ахвяры, прысыланыя на „Дом Беларускае Культуры ў Вільні“, будуць ляжаць у Беларускім Коопэратыўным Банку да часу, пакуль не налічыцца сума, патрэбная дзеля куплі ці пабудовы адпаведнага дому.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Рэфэрат дыр. Ластоўскага аб падняцьці гаспадарчага роўня нашага краю.

1 і 2 чэрвеня г. г. адбыўся ў Вільні гадавы зьезд Земляробскіх Гурткоў і арганізацый (Związek Kółek i Organizacyj Rolniczych). На зьезьдзе гэтай важнай у гаспадарчым жыцьці нашага краю арганізацыі, выступіў з рэфэратам дыр. Ластоўскі, кіраўнік станцыі досьледаў у Бенякорях. Галоўныя думкі гэтага рэфэрату у скарочаньні падаем тут.

Ня можна нават рабіць ніякага раўнаваньня між гаспадарчым станам нашага краю і нашымі суседзямі, славянамі чэхамі, ня кажучы ўжо аб Нямеччыне. Мне, як тутэйшаму чалавеку, сэрца баліць, калі гляджу на гаспадарку ў нашым краі.

Розныя „штукары“, ня знаючыся на гаспадарцы, кажуць, што гаспадарку можна паправіць, матыкуючы збожжа або рэдка сеючы. Перасьцерагаю сваіх землякоў перад шкоднасьцяй гэных магічных штучкаў, яны ніякой карысьці земляробам ня прыносяць.

Праўда, нават на найгоршых нашых землях можна, без над'звычайных захадаў і працы, павялічыць плады зямлі на 50-100%, значыцца ў два разы. Да гэтага трэба ісьці наступнымі шляхамі.

Трэба стасаваць зялёныя ўдабрэньні. Сеяць лубін, за выняткам гліністай зямлі, сеяць сарадэлю ў жыта, там, дзе расьце канюшына, загорваць другі пакос канюшыны.

Трэба палепшыць фізычны стан нашых зямель, гэта можна асягнуць, адводняючы і дрэнуючы грунт.

---

гэтую брудную, густую жыжу, працякаючую па каналах, па каторых бадзяюцца рэшткі згніўшых арбузоў, гуркоў і рознага сьмяцьця, бо, паводлуг веры пэрсаў, вада ачышчае ўсё і бруднай быць ня можа. Але вера іх адно, а сумная праўда — другое.

Ня дай Божа якой эпідэмічнай хваробы, а асабліва халеры, якая вельмі частым гасьцём бывае ў Пэрсіі. Людзі тады мруць, як мухі, і зараза, дзякуючы бруду і поўнаму неразуменьню пэрсамі гігіены, косіць іх цэлымі тысячамі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З хлебных расьлінаў на Іранскім плоскаўзвышшы найбольш я бачыў пшаніцы і ячменю. Расьце тамака таксама хлапок, расьліна, з якой зьбіраюць вату, з каторай пасьля робяць баваўняную тканіну.

З фруктаў — вельмі шмат тамака пэрсікаў (падобны да нашых сьлівак, толькі больш круглыя і маюць некую касматую скурку), расьце таксама добра вінаград, але магамэтанская вера забараняе пэрсам піць віно, і дзеля гэтага добрых гатункаў вінаграду ня надта шмат, і разводкай іх займаюцца армяне (хрысьціяне), альбо жыды. Яны робяць з яго віно, але збыт яго малы.

Хвалядь віно Кірманшахскае. Я піў яго. Яно мае моц і хутка ап'яняе, але ня вельмі смачнае.

Самыя-ж пэрсы гадуюць яго толькі для яды, альбо для вырабу воцту.

З гарадоў Іранскага плоскаўзвышша, якія мне прышлося пазнаць, жывучы ў іх даўжэйшы час, гэта — Казьвін, Хамадан, меней трошкі знаёмы мне Тэгеран і Кум, у якіх я быў усяго некалькі разоў.

*Дзядзька Пранук.*

(*Працяг будзе*).

Трэба на вузкіх загонах рабіць высокія склады, такім чынам вада будзе сплываць. Наступна трэба зносіць і загорваць межы, якія ёсьць толькі сялібай інсэктаў, грыбоў і іншых дзікіх і шкодных расьлінаў.

Сеючы збожжа, трэба датарнавацца да клімату, які маем. Трэба памятаць, што ў нас зіма, ў параўнаньні з іншымі краямі, а нават іншымі часткамі Польшчы, трывае на 45 дзён больш.

Зараз-жа па жніве трэба загараць іржышча. Загаранае іржышча папраўляе грунт. Важнай рэчай ёсьць паглыбленьне ральлі. Гаручы, трэба сошкай ісьці па баразьне і такім чынам ральлю можна паглыбіць.

Пад бульбу трэба гараць на зіму глыбока, так на верх выдабыць трошкі (ня многа) жоўтага пяску. Бульба ў гаспадарцы адыгрывае важную ролю. Без яе няма правільнага пладазьмену і направы ўраджаю. Бяз бульбы, як наагул без акопных расьлін, няма малака. Пад бульбу ня трэба кідаць густа і многа быдлячага гною. Трэба ўжызаць палову гною і зялёныя ўдабрэньні.

Трэба памятаць, што штучныя ўдабрэньні цяпер дарагія і часта не аплачваюцца. Важнай рэчай ёсьць добрае насеньне. Перад засевам трэба насеньне ачысьціць. Найлепш мачыць у рошчыне сулемы $^{1}/_{1000}$.

Вось гэтых некалькі ўвагаў павінен пільна разглядзець кожны гаспадар. А калі, разглядзеўшыся ў сваім цяперашнім палажэньні, прытарнуецца да новых вымаганьняў, даложыць працы, дык бязумоўна гаспадарку сваю паправіць.

---

## Культура проса (Panicum miliaceum).

Проса — старая культурная расьліна, якая была ўжо вядома падчас Юлія Цэзара і занесена ў Эўропу з Усходняе Азіі. Проса разводзіцца дзеля атрыманьня з яго зярнят, з якіх робяць крупы, званыя *пшаном*. Проса вельмі любіць цяпло, асабліва падчас прарастаньня і калі пасьпявае. Яно надта ўразьліва на прымаразкі і моцна забіваецца сьметнікавымі травамі,ласьне пры пасеве яго ў халодную зямлю. Проса трэба сеяць не раней другое палавіны траўня, а нават з пачатку чэрвеня.

Калі проса пусьціць ужо тры лісьцікі, тады яно не баіцца ні засухі, ні сухіх вятроў. Проса нават добра пераносіць засухі, але ня зносіць лішняе сырасьці грунту.

Проса любіць пладародны грунт і чысты ад травы, а лепш за ўсё яно ўдаецца на *цалінах, многалетніх залежах* і *пералогах*, якія не абрабляліся гадоў 7-8.

Гэтак-жа добра яно ўдаецца *па канюшынішчы і пасьля бульбы*, абы зямля была чыстая ад сьметнікавых траваў.

Хаця проса любіць клустую зямлю, але сеяць яго па сьвежым гнаі ня варта, бо яно тады надта забіваецца травамі і больш ідзе ў салому. Словам, дзеля проса найлепш падходзяць *пухкія супясковыя* або *сугліністыя грунты;* цяжкія-ж гліністыя, тарфяністыя, балацістыя, або вапнаватыя грунты дзеля культуры проса не надаюцца. Трэба заўважыць, што па просе *заўсёды вельмі добра ўдаецца жыта.*

Пры пасеве проса, галоўная ўвага павінна быць скіравана на тое, каб зямля была добра ачышчана ад пырніку і др. сьметнікавых траваў.

Калі проса сеецца па залежах, то пласты зямлі паднімаюцца плугам яшчэ з восені, або самаю раньняю вясною на глыбіню 3-4 вяршкі (20-25 сантым.). Перад пасевам проса, зямлю трэба зьлёгка прабаранаваць ў 4-5 сьлядоў і сеяць проса па 24-32 кілёгр. (1,5—2 пуды) на гэктар, прыкрываючы зусім мелка насеньне.

Перад пасевам насеньне проса добра, як кажуць, пратравіць, або вымачыць у медзяным купарвасе (сіні камень), якога біруць 1 фунт на 8 вёдзер вады і вымочваюць проса пудоў 8 у працягу 10-12 гадзін.

Гэтак сама добра дзеля гэнае мэты браць і вымочваць насеньне ў слаба распушчаным *фармаліне*, якога біруць 0,5 — 1 кілёграм на 10-12 вёдзер вады; гэныя спосабы пратраўліваньня насеньня проса, аўса і інш. памагаюць таму, што ў сырыя гады збожжа ня церпіць ад галаўні, (грыбковае хваробы). Часамі можна прамываць проса і ў звычайнай вадзе, дзеля чаго насыпаюць проса ў бочку, наліваюць вады і памешваюць, тады лёгкае насеньне ўсплывае наверх і яго зьліваюць з вадою раз-два, а пасьля рассыпаюць мокрае проса, каб абветрылася і затым сеюць. Калі пасеянае проса наклюнецца, само насеньне палопае, тады часта заходзіць патрэба рабіць гэтак званае — „ламаньне пасеваў", гэта значыць, прымяніць зусім мелкую арбу проса вузкімі пластамі, альбо пабаранаваць яго лёгкімі баронамі. Ламаньне гэтае заўсёды прыносіць вялікую карысьць, бо ачышчае поле ад пырніку і іншых траваў і павышае ўраджай зярнят. Ламаньне звычайна робяць на 3-4 дзень пасьля пасеву і падчас цёплае пагоды, і на 7-14 дзень, калі стаяць халады.

Дзе ня робяць ламаньня, там абавязкова трэба палоць проса.

Проса, пасеянае на навіне або пласту, дае ня менш як 50—150 пудоў зярнят і якіх 70—200 пудоў саломы, якая зьяўляецца надта добрым кормам для жывёлы, асабліва калі салома добра падсушана і не заплесьнела, што даволі часта бывае. Ураджай-жа проса з мяккіх стараорных зямель заўсёды бывае трохі меншы — гэтак 40-100 пуд. зярнят і 50-140 пуд. саломы.

У некаторых мясцовасьцях гаспадары не без карысьці часта сеюць проса ў папары, дзеля атрыманьня сена або і зялёнага корму. Гэткім чынам насеньне проса дае многа сена, добра ачышчае і падгатаўляе поле пад жыта і нават пад пшаніцу, а самы пасеў каштуе ня дорага, бо патрабуецца дзеля засеву аднаго гэктару якія 3 пуды зярнят; сена-ж часта можна сабраць больш як 300 пуд. Пасеянае проса дзеля зярнят падчас пасьпяваньня лёгка асыпаецца, дык вось, трэба зьбіраць яго з поля асьцярожна, а таксама і вазіць на засланых посьцілкамі вазох.

Трэба глядзець, каб проса заўсёды было добра падсушана, бо вымалачаныя зярняты проса, будучы сыраватымі, лёгка ўграваюцца і псуюцца, роўным чынам сыраватая салома ўграваецца і псуецца.

---

Гатункаў або сартоў проса даволі многа і ўсе яны розьняцца па форме сваіх мяцёлак, па колеру зярнят ; велічыні саломы і г. д.

Мяцёлкі ў проса бываюць раскідныя, як пу-

чок травы мятліку, або паніклыя, альбо сагнутыя на адзін бок, і могуць быць сабраныя разам мяцёлкі, як-бы бярозавы венік, — гэта будзе так званае *камавае* проса.

У раскідных або мяцёльчатых просаў зярняты бываюць белаватыя, жоўтыя, шэрыя, чырвоныя або цёмна-каштановыя; усе гатункі гэных просаў скарасьпелыя, не вымагаюць дужа ад грунтоў, але самі зярняты даволі дробныя.

У сартоў паніклага, або поўсагнутага проса па колеры зярняты бываюць жоўтыя, чырвоныя, шэрыя і чорныя, а ў камавога проса — чырвоныя і жоўтыя. Гэтыя ўсе гатункі познасьпелыя, вымагаючь далёка лепшых грунтоў, хаця зярняты дужа большыя.

Есьць яшчэ гэтак званае *пластовае проса* з жоўтымі рагавіднымі зярнятамі, якія даюць надта смачныя крупы. Проса гэнае ўдаецца найлепш на пластох або цалінных землях.

У Расеі і ў Беларусі найбольш сеюць звычайнае проса — Panicum miliaceum, а таксама белае разьвесістае проса (Panicum miliaceum effusum), якое зусім не вымагае добрых грунтоў, часта добра ўдаецца па жыце і бульбе, і на полі чыстым ад пырніку дае 70—100 пудоў з гэктару.

Проса паніклае (Panicum miliaceum contractum) — жоўтае і чырвонае — мала ўраджайнае і зярняты дробныя.

Камавое проса — (Panicum miliaceum compactum), вымагае лепшых грунтоў, пасьпявае пазьней, дае тоўстую салому, але часта можа даць да 250 п. зярнят.

Чырвонае камавое лепш за жоўтае і белае і дае вельмі дарагое пшано.

Італьянскае проса — (Setaria italica), або галоўчатае проса, галінкі яго ўкарочаны і сабраны як-бы ў пачатак кукурузы. Адным з разнавідаў яго будзе гэтак званы *мачар*, які добра пераносіць засухі, расьце на полі ня больш 9-10 тыдняў і калі пасеяць на сена, то дае корм ня горшы за канюшыну. Мачар любіць добрую апрацоўку і чыстую зямлю, але ня зносіць сьвежага гною. З гэктару можна мець 200-250 пуд. добрага сена і пудоў 30 зярнят.

Да просавідных расьлінаў адносіцца і сарго, гаолян і інш. расьліны.

*Я. Х.*

---

## Падгатоўка поля пад ярыну.

Дзеля таго, што яравыя пасевы ідуць галоўным чынам пасьля азімых, падгатоўка пад іх поля звычайна робіцца ў канцы лета, ці ў працягу восені; у крайнім-жа выпадку яна выпаўняецца і вясной.

Апошняе бывае тады, калі сяляне карыстаюцца іржышнікам для свае скаціны.

Зразумела, што пры гэткіх умовах зямля ня можа быць падгатавана, як трэба, бо на апрацоўку яе часта астаецца ня больш як месяц, а за гэтак кароткі час, асабліва цяжкі грунт, амаль немагчыма апрацаваць больш ці менш задавальняюча. З другога боку, пакідаць першую аб'орку грунту пад ярыну да вясны таксама нявыгадна, бо ведама, што часта ўраджай на гэткіх грунтох атрымоўваецца горшы, чым на зяблявых палёх.

Звычайна з мэтай атрыманьня лепшага ўраджаю ярыны грунт пад яе арэцца з восені два разы — першы раз на нязначную глыбіню (лушчэньне), а другі — на ўсю глыбіню, каб грунт у працягу зімы змог добра прамерзнуць і выветрыцца. Чым раней будзе рабіцца лушчэньне грунту, тым лепшыя будуць ярынныя ўраджаі на гэткіх палёх.

Неабходна яшчэ памятаць, што лушчэньне трэба рабіць зараз-жа пасьля сабіраньня *азімых* расьлінаў, калі грунт у верхніх слаёх бывае вельмі пухкі.

Апошняе яўленьне асабліва заўважваецца пры добрых ураджаях, якія характарызуюцца густым травастоем. Тлумачыцца гэта тым, што хлебныя злакі, а асабліва ўсе шыракалістныя расьліны як: гарох, грэчка, віка і інш. заценяюць грунт, бароняць ад udараў граду і дажджу, заглушаюць шкодныя травы, а таксама не даюць асядаць грунту; калі-ж пасьля зборкі гэткіх расьлінаў поле астаецца ў працягу некаторага часу не ўзараным, дык паверхня яго будзе хутка шчыльнець, губляючы сваю пухкасьць ці, як называюць, „сьпеласьць"; шкодныя-ж травы, вызваліўшыся ад прыгнечваньня ўплываў культурных расьлінаў, пачынаюць хутка разьвівацца, высушваючы грунт і яшчэ больш размнажацца сваім насеньнем. Калі, апрача гэтага, на гэткае поле выпускаецца быдла, дык ральля вельмі зьбіваецца нагамі жывёлы і таксама губляе карысную пухкасьць.

Пралушчанае своечасна поле другі раз арэцца на *большую* глыбіню ў канцы верасьня, ці ў першых датах кастрычніка, гледзячы па клімату гэтай мясцовасьці, і ў гэткай постаці пакідаецца да вясны.

Не бескарысна будзе між першым і другім узьмётам нават прабаранаваць пралушчаны грунт дзеля зьнішчэньня на ім шкодных траваў, якія ізноў зьяўляюцца. Лёгкія грунты лепш пакідаць да вясны не аранымі, а толькі баранаваць іх у працягу восені з мэтай выкараненьня на іх траваў. Пры вельмі вялікай вільгаці на цяжкіх грунтох праводзяцца вадасьцечныя баразны, каб сьнегавая вада магла з іх сьцячы. Вясной, калі поле даволі прасохне, цяжкія грунты спачатку барануюць, а пасьля аруць адзін ці два разы на розную глыбіню, гледзячы, калі прыдзецца на іх сеяць.

Канечне, пад ранейшую ярыну магчыма абмежавацца аднэй узоркай поля.

Шнуры ці наагул кажучы вучасткі з-пад бульбы, буракоў і іншых караньплодаў можна апрацоўваць крыху інакш. Гэткія грунты, пасьля зборкі з іх пладоў і насеньня, магчыма араць адразу на вялікую глыбіню нават на зьлёгшых грунтох, але і тут таксама трэба араць зараз-жа пасьля зборкі ўраджаю.

Некаторыя гаспадары, узараўшы грунт з восені пад ярыну, думаюць, што ў іх ужо ўсё зроблена і ня рупяцца далей апрацоўваць патрэбным чынам ральлю вясной.

Дзякуючы гэтаму, грунт сільна высыхае і пасьля, пры пераварочваньні, ён адвальваецца плугам вялікімі скібамі. Зразумела, што пры гэткіх варунках вясеньняя арба зьяўляецца зусім бескарыснай. Калі гаспадар дзеля якіх-колечы прычынаў пакідае арбу свайго грунту да вясны, дык яму прыдзецца вельмі глядзець за тым, каб па магчымасьці лепш скарыстаць кароткі час, які астаецца да сяўбы. У гэткім выпадку трэба ра-

біць першую аб'орку як мага лепш і хутчэй, не забываючы зараз-жа за плугам і баранаваць. Зразумела — гэткае працы ня трэба рабіць у той час, калі грунт яшчэ вельмі сыры. Лепш некалькі дзён пачакаць з гэткай арбою, чымся рабіць яе пры сырым грунце.

Канчаючы апісаньне апрацоўкі грунту пад ярыну, мы павінны сказаць, што найлепш у ліпні араць мелка, а ў кастрычніку г. зн. увосень узараць глыбока.

Тлумачыцца гэта тым, што летняе лушчэньне (аб'орка) зяблёвых грунтоў добра захоўвае вільгаць і лёгка прапускае ў грунт восенскія асадкі.

Восенская-ж арба поля зьбірае вільгаць у верхніх слаёх і не дае магчымасьці ёй добра ўсмоктвацца ў глыбіню грунту, асабліва пры ранейшым яе ўзараньні. Значыцца, веснавая аб'орка дае дзеля ярыны больш вільготны грунт і таксама затрымоўвае высыханьне сабраўшайся вільгаці яшчэ з восені.

Усё вышэйсказанае аб падрыхтоўцы грунту пад яравыя мае на мэце, галоўным чынам, накапленьне і збераженьне грунтовай вільгаці, зьяўляючайся, як вядома, адным з самых важных фактараў у адношаньня атрыманьня найлепшага ўраджаю там, дзе заўважваецца недахват атмасфэрных асадкаў вясной і летам.

Важнасьць пералічаных прыёмаў ужо даўно прызнавалася ў земляробстве рознымі вучонымі і практычнымі гаспадарамі, а дзеля гэтага кожны павінен згадзіцца з тым, што вялікім скарбам у гаспадарцы зьяўляецца: 1) як мага больш лік у грунце вады зімой; 2) падтрыманьне прапушчальнасьці грунту для вады, каб у ральлю пранікла па магчымасьці большая колькасьць атмасфэрных асадкаў; 3) затрыманьне капілярнага руху вады ў грунце да самай яго паверхні, чым аслабляецца і нават зусім прытрымліваецца высыханьне расьліны. Дзякуючы вышэйназваным варункам, нашыя грунты лічацца прыгатаванымі дзеля добрага разьвіцьця мікраарганізмаў, якія і ствараюць вядомую сьпеласьць грунту, дзякуючы якой ёсьць пэўная надзея на атрыманьне вялікага ўраджаю, як з азімых, гэтак і з яравых. І чым бяднейшы грунт, тым большы ўплыў на яго маюць вышэйназваныя бактэры, функцыя якіх браць вольны азот з паветра і перадаваць яго расьлінам. Грунтавыя бактэры для свайго хуткага разьвіцьця патрабуюць пяплыні, паветра і вільгаці. Яны размнажаюцца ў усякім грунце, а ў лугавым найбольш. Найменшая колькасьць гэтых бактэрыяў знаходзіцца ў грунтох, даўшых ужо некалькі ўраджаяў, а найбольшая ў грунце пасьля шыроколістных ці інакш бабовых расьлінаў.

І вось з усяго сказанага мы бачым, што задача апрацоўкі грунту ня ў тым, каб толькі пераварочваць зямлю плугам ці сахой з аднаго месца на другое, а ў тым, каб аблягчыць у ім хіміка-біолёгічныя працэсы і, ў выпадку патрэбнасьці, зьніштожыць перашкоды правідловаму ходу гэтых працэсаў. Вось дзеля чаго не глыбіня і не інтэнсыўная апрацоўка грунту, а своячасная яе зьяўляецца галоўнай і рацыянальнай падгатоўкай грунту да пасеву. Калі зараз-жа пасьля зборкі расьлінаў з поля не заараць, дык частка пашні, якая знаходзіцца на ім, губляецца бескарысна для азотных бактэрыяў і зьядаецца іншымі мікраарганізмамі, засяляючымі атмасфэру. А па-другое, поле не ўзаранае пасьля касы ці сярпа, высыхае і цьвярдзее зьверху, астаючыся дзеля гэтага няпрыступным для пранікань паветра. Церпячы-ж ад недахвату апошняга, а таксама і вільгаці, названыя мікраарганізмы з кожным часам усё больш і больш выміраюць. Поле-ж узаранае хоць-бы на самую нязначную глыбіню, пасьля зборкі расьлінаў, хутка ажывае, бо ў ім пачынаецца бражэньне ці разьвіцьцё гэтак званай сьпеласьці грунту. У гэткім выпадку грунт пры цёплай пагодзе разрыхляецца на гэткую глыбіню, што здаецца ўжо глыбока ўзараным.

Апрача ўсяго, калі мы хочам удабрыць свае грунты гноем, дык так рэкамендуецца лажыць яго летам ці ўвосень і заараць вельмі мелка, каб значная частка яго аставалася амаль не пераханай зямлёю. Гэта таксама дае магчымасьць лепш разьвівацца азотным бактэрыям. Неабходна заўсягды памятаць аб тым, што глыбокае закрываньне гною, асабліва-ж на больш цяжкіх грунтох, вельмі мала ідзе на карысьць пасеяных расьлінаў, а больш дае ежу вядомым грунтавым грыбком.

*S.*

---

## Макрэц у каня.

Макрацом называецца прышчаватае запаленьне скуры на задніх, ніжніх часьцінах ног, ніжэй гэтак званае шчоткі.

У вельмі цяжкіх, альбо зацягнутых выпадках пераходзіць гэтая хвароба вышэй шчоткі, альбо на бочныя часьці ног, альбо на запяткі і пасады капытаў.

Макрэц выступаець найчасьцей узімку, альбо ў часе вясьняных і васеньніх балотаў, выступаець таксама пры халодных доўга трываючых дажджох. Дзеля гэтага гаспадар павінен у гэтых порах году выціраць коням ніжнюю часьць ног сухою, мяккаю саломай, калі ўводзіць іх у хлеў.

Прыкідаецца макрэц і як пасьледак неадпаведнага кармленьня жывёліны, напрыклад, стухлым аўсом, гнілым сенам і г. д.

Падатнаю на макрэц робіцца скура дзеля неахайнасьці, альбо калі коні трымаюць у задухлівых хлявох, дзе паветра не праветрываецца, альбо няма адплыву макраты.

На макрэц захворваюць пераважна маладыя коні, якіх скура мала ёсьць адпорнай на хваробу,

У старых коняй макрэц прыкідаецца як паваротны, па перабытым ужо ў маладым веку.

Макрэц вельмі цяжка вылечваецца, калі лячыць яго няўмела, альбо калі да яго ня вельмі паважна адносіцца ды зацягнуць.

Азнакі гэтае хваробы гэткія: пры вострым макрацу зьяўляюцца на ніжніх часьцях ног, ніжэй шчоткі прышчы, з якіх выступаець крывяная сыраватка, якая засыхаець у струпы.

Скура ў гэтым месцы апухае, што выклікае боль і кульганьне. Бываець, што коні перастаюць хадзіць.

Калі хваробу закінуць, дык запаленьне захоплівае далейшыя і глыбейшыя часьціны; валасо натапырваюцца (сабачы волас), зьлепліваюцца ў купкі, а скура хвалдуецца, лопаецца і пакрываецца бура-шэрым, сьмярдзючым струпам, пасьледкам чаго ногі апухаюць, а хвароба пераходзіць за путню. Як далейшае разьвіцьцё хваробы,

выступаець дзікае мяса, як наросты, з якіх выцякае сьмярдзючая цекласьць.

Пахам гэтая цекласьць прыпамінае гнілыя селядцы. Скура і падскурная тканіна апухаюць і гэткія абраклыя ногі прыпамінаюць ногі сланёвыя.

У такіх выпадках скура і падскурнік мярцьвеюць і можа здарыцца запаленьне крыві.

Лячыць гэтую хваробу трэба гэтак: з пачатку памагаюць цёплыя абкладкі з паранае мешаніны па роўнай часьці з пацерух сена з алфеем (сьлізьняком) альбо аўсяной ці ячменнаю палявінай. Абкладваць трэба раз на дзень, калі-ж макрэц у каня баліць, дык трэба дадаць да вышэйупомненай мешаніны $^1/_2$ жмені насеньня лёну, альбо цьвету мальвы ці шалфею.

Добра зрабіць цёплую купель на 20 мінутаў. Купаць трэба ў прыпары з роўных часьцей (па жмені) вышэй успомненых зёлкаў. Гэтыя зёлкі трэба запарыць у 3 квартах кіпню.

Па купелі хворыя часьціны ног трэба выцерці насуха і нашмараваць камфорным алеікам, які можна дастаць заўсёды ў кожнай аптэцы, альбо нясоленым сьвежым кароўім маслам, да якога трэба дадаць соку з нясьпелых макавак. Нагу трэба перавязаць старою, чыстаю льняной ганучкай. Па трох днёх вымыць ногі з мылам, а як не памагло, дык паўтарыць купель. Калі-б скура ўжо патрэскалася і пацёк сьмярдзючы гной, добра накладаць раз на 2 дні перавязку з льнянога прадзіва, нашмараваўшы ўперад хворае месца льняным алеем з вапняной вадою. Рабіць гэта на перамену з купельлю з адвару дубовае кары (з маладых галінак).

Памагае так-жа перасыпаньне перад перавязкаю паленым галуном.

Нарасты з дзікага мяса трэба прыпаліць ляпісам альбо распаленым жалезам.

Калі-ж ужо зьявілася гніцьцё, дык трэба шмараваць росчынай крэоліну Пірсона (Pearsohn), бяручы 1 лыжку на кварту адвару дубовае кары.

У такіх выпадках памагае таксама шмараваньне памазком ацтанінам, бяручы 2 грамы гэтага леку на 50 грамаў пераваранае вады, з дадаткам 1 лыжкі сьпірту. Можна таксама ацтанін разьвясьці ў самым сьпірце.

Хворых коняй ня варта высылаць на працу, асабліва калі мокра.

*Я. П.*

---

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Вывад матак.

Карысьць ад пчалярства, як аб гэтым ужо шмат гаварылася, залежыць ад сілы вульля, г. зн. ад вялікасьці сям'і і ад якасьці пчол-работніц; дзеля гэтага практычны пчаляр ніколі не пакіне пчол бяз добрае, здаровае, плоднае маткі. Пасьля раеньня, а гэтак сама пасьля ўтраты маткі, у працягу якіх трох тыдняў, не кладуцца яечкі дзеля таго, што маладая матка праз гэты час павінна вывясьціся: (у гэты час можа нават знайсьціся небясьпечная для пчаляроў трутоўка). З прычыны таго, што ў летнія месяцы найболей пчол губіцца падчас узятку на полі, можа здарыцца тое, што сям'я ўсё больш і больш будзе паменшвацца і слабець, асабліва тады, калі вулей дасьпь яшчэ дружакі. Дзеля гэтага мы павінны старацца, каб сям'я па магчымасьці ніколі не засталася бяз маткі, гэтым мы выграем і час і сілу вульля. Калі пчаляр хоча мець большую карысьць з свае пасекі, то ён павінен рупіцца, каб у яго пад рукою, г. зн. на пчальніку, былі заўсёды плодныя, здаровыя, запасныя маткі.

Вывад гэтых матак, у адумысных запасных вулейчыках, я дакладна апішу ў сваім наступным артыкуле, цяпер толькі абмяжуюся што да вываду матак у сваіх вульлёх, аб іх замене і аб значэньні добрае маткі для вульля. Вось-жа часта можна прыкмеціць, што адныя маткі менш плодныя, як другія, альбо зноў-жа ад'значаюцца не такою якасьцяю. Гэткіх матак трэба пчаляру пазбавіцца праз замену іх лепшымі пад якасьцёвым паглядам маткамі, дзеля таго, што пасьпешная зборка мёду залежыць ад якасьці маткі, ад ліку і мацнаты яе патомства.

Вельмі важна пастарацца захаваць на даўжэйшы час добрую якасьць вульля і пры выбары матак на будучыну трэба браць такія, якія пражылі ўжо з адзін год і пакінулі па сабе моцнае і працаздольнае патомства; трэба не забывацца, што маткі наагул перадаюць патомству ўсе свае прыкметы, прыкладам: працаздольнасьць будову і г. д.; трутні-ж перадаюць рабочым пчолкам характар.

Маладыя маткі найбольшую сваю якасьць асягаюць на другім годзе жыцьця; надалей, па двух гадох, можна іх трымаць толькі ў тым выпадку, калі гэтыя маткі ад'значаюцца якімісьці над'звычайнымі прыкметамі, якія мы хочам, каб матка і надалей перадавала патомству. Да вываду матак трэба рыхтавацца ўжо з раньняе вясны. Трэба выбраць самую моцную сям'ю і падкрапляць яе ўвесь час падкормліваньнем і ўсільным чарвеньнем.

У гэты вулей устаўляецца вуза толькі на рабочую пчалу, не на трутняў і ён пакідаецца выключна для вываду матак. Для вываду трутняў трэба выбраць другі вулей, гэтак сама з моцнаю сям'ёю і пачаць усільна падкормліваць, з раньняе вясны. Калі вулей увайдзе ў сілу, дык у сярэдзіну вульля ўстаўляецца трутнёвая вашчына; дзякуючы ўсільнаму падкормліваньню, матка чарачкі гэтае вузы запоўніць яечкамі, а ў свой час з іх выйдуць трутні, якія і вылятаюць тады, як трэба запладніць матку.

Гэткім чынам, пры помачы разумнага падбору сем'яў мы ня толькі папераджаем блізкае радзтво, якое вынікаець з таго, што ў адным вульлі гадуем і матку і трутняў (дзеля чаго ласьне ў даным выпадку мы гадуем трутняў асобна), але паляпшаем пароду пчол, праз зьмяшаньне крыві маткі з аднаго вульля з крывёю трутняў з вульля другога, перадаючы разам з гэтым усе добрыя прыкметы зьмешанай крыві сем'яў.

Калі бываець раньняя кладка яечак, дык трутні выйдуць ужо ў красавіку; як толькі гэта будзе прыкмечана, тады ў сярэдзіну другога гнязда, гэтак сама падкормліванага, устаўляецца рамка з пустою вузаю з пчалінымі чарачкамі; матка безадкладна зачарвяе гэтую рамку. Праз тры дні пасьля зачарвеньня матку трэба выняць і пасадзіць у другі вулей. Рамкі з незапячатаванаю вузаю гэтак сама трэба выняць і пасадзіць у другія гнёзды.

Цяпер пчолы, маючы запячатаваную чарву, хаця й маткі ня маюць, гнязда ня могуць пакінуць, а на тое месца пачнуць закладаць матачнікі па краёх вузы; у гэтай працы мы можам ім дапамагчы расшырыўшы дзірачку тэй чарачкі, конусаваю палачкаю, з якое мы хочам, каб пчолы пачалі будаваць матачнікі. Гэткім чынам мы раўнуем сьценкі суседніх чарачкаў зазвычай ніжэй паложаных і застаўляем гэтым самым пчолак папраўляць шкоду, а дзеля таго, што зруйнаваных чарачак пчолам ня ўдасца паправіць, яны прыймаюцца за работу аднае на іх месца чарачкі, зробленай нашай конуснай формы палачкай і выводзяць яе ў матачнік. Гэтак сама некаторыя пчаляры радзяць адрэзваць берагі вузы, хочучы пчол гэтым самым пабудзіць да закладаньня матачнікаў, уздоўж гэтых абрэзаных берагоў. Гэты спосаб вываду матак завецца *штучным*, дзеля таго, што пчолы пры нашай дапамозе і пад нашай апекай будуюць матачнікі, якіх-бы самі пабудаваць не асьмеліліся, бо ня лічылі-б гэта патрэбным, але пры нашай помачы палічылі патрэбным, калі мы адабралі ў матку, *пакінуўшы ў вульлі чарву*, якой пчолы ўсё-ж такі стараюцца запэўніць будучыну цераз вывад маткі. Заходзіць пытаньне, пашто мы стараемся, каб пчолы залажылі чым больш матачнікаў, калі-б для іх аднае маткі хапіла? Бязумоўна, што пчолам для данае сям'і хопіць аднэй маткі, а нашыя стараньні ў тым, каб пчолы іх залажылі чым найболей апраўдваюцца тым, што нам патрэбны на кожны выпадак летам здаровыя запасныя, плодныя маткі, атрыманыя вышэйсказаным спосабам. Прыходзіцца прыкмеціць на гэтым месцы аб тым, што мы аднак-жа *не дапускаем*, каб пчолы вывялі гэтых матак у тым вульлі, дзе яны залажылі большы лік матачнікаў.

Штучны вывад матак робіцца ў адумысна дзеля гэтай мэты зробленых маленькіх вулейчыках, аб якіх я пагавару з паважанымі чытачамі наступным разам. Тут толькі ад'значу, што гэты самы спосаб мы можам застасаваць і тады, калі хочам вывясьці адну, нам патрэбную, добрую матку для данага толькі аднаго вульля. Гэта можна рабіць падчас багатага мёдабраньня, калі ў пчол у вульлі ёсьць шмат чарвы, прыкладам—хоць напалавіну трутовае, пакладзенае старою ўжо нядольнаю маткаю. Вось-жа, каб замяніць яе новаю можам адабраць яе ў пчолак, а яны, ня могучы пакінуць чарвы і занятыя зборкаю мёду, заложаць матачнік і вывядуць сабе новую матку. Гэта бываець часамі карысна рабіць і дзеля таго, каб стрымаць пчолы ад раеньня і змусіць іх нанасіць чым найболей мёду. Я чуў ад некаторых украінскіх пчаляроў-практыкаў, што проста ў часе багатага мёдабраньня аддушваюць наўмысна матак у моцных вульлёх з чарвою, дзеля таго, каб пчолы пакінулі думку аб раеньні і займаліся толькі выключна зборкаю мёду. Ці карысны гэты спосаб, ці благі для пчаляроў, я напэўна не магу сказаць, хай яго хто хоча спрабуець і пераканаецца сам, крытыкуючы потым альбо хвалячы яго. Я прынамсі да гэтай пары на сваёй пасецы яго не практыкаваў, але ўсё-ж думаю, што можна ім будзе паслугоўвацца тады, калі на пасецы ёсьць штучна выведзеныя маткі, з якіх мы, калі аддушым матку і спаткаемся з бядою, адну з гэтых запасных матак можам у вулей падсадзіць, не пагражаючы яму згубаю.

Адным словам, маючы на пасецы запасныя маткі, штучна выведзеныя ў адумысных вулейчыках, можна паслугоўвацца на пчальніку рознымі апэрацыямі (у вульлі) з маткаю, ці то аддушваючы яе і прымушаючы пчолы ўстрымаць раеньне, а зьбіраць толькі мёд, ці то ізноў-жа, у выпадку старога веку, альбо благое пароды, ці гатунку, замяньваюць яе больш лепшаю з нашага запаснога вулейчыка, ці зноў-жа ў выпадку штучнага раеньня, г. зн. разгону пчол, гэтак сама неабходна даць адагнанай палавіне пчол запасную матку і г. д.

*Пчаляр.*

# Сьвітае.

Цёмная, нудная, ноч даўгавечная
Нікне над вёскай маей,
Вёска вялікая, моцная людная,
Горнецца к сьвету хутчэй,
Ветры разьвеялі хмары жалобныя,
Сонейка ласкі нам шле.
Нас устрывожылі думкі свабодныя,
Клічуць к жыцьцёвай вясьне.
Промені пылкія волі магутнае
Ў сэрца запалі людзей.
Зьнікнулі песьні, песьні пакутныя
Даўно ў вёсцы маей.
Выйдзем-жа, брацьця, ў поле прасторнае
Родную ніўку гараць.
Хопіць ў нас сілы, сілы бадзёрнае,
Лепшую долю каваць.

*Ул. Берняковіч.*

# Корэспондэнцыі.

## Важная праява ў нашым жыцьці.

(*в. Церабостынь, Стаўпецкага пав.*).

Даўно ўжо некаторыя больш сьведамыя адзінкі нашае вёскі ламалі сабе галаву над тым, каб як-небудзь залажыць гурток (хаўрус) сельска-гаспадарчага таварыства. Гэтаму бязумоўна перашкаджаў шовінізм нашае вясковае інтэлігэнцыі, бо беларускага сельска-гаспадарчага таварыства пакуль што няма, а залажыць польскае — дык гэта-ж „гвалт“.

Аднак жа здаровы розум сялян перамог шовіністычную дэмагогію і даказаў, што наш народ жадае згоды і супольнай працы над пашырэньнем дабрабыту і зямельнай культуры сярод нашага сялянства.

Фактычна ініцыятыва залажэньня сельска-гаспадарчага гуртка належала вучыцелю Церабостынскай пачатковай трохаддзелавай польскай школы, п. Уладыславу Тушаю. Але дзеля таго, што сяляне да яго аднясьліся дрэнна (хоць і ён да іх ня лепш), дык гэтая прапазыцыя праваліла-ся. Сярод сялян пайшлі гутаркі (толькі цікава, хто іх пушчаў), што вучыцель хоча нажыцца за

іхнія грошы, якія яны будуць плаціць, як сяброўскія складкі. Што ні рабіў вучыцель, каб угаварыць сялян — нічога не зрабіў. Опінія, якую меў вучыцель у сялян, перашкодзіла яму. Так гэтая справа засталася непарушанаю.

Толькі вось у гэтым годзе больш сьведамыя адзінкі вёскі, ня гледзячы на палітычныя перакананьні, самі ўзяліся за гэтую справу. Бо-ж там, дзе ляжыць дабрабыт народу, ня трэба глядзець на палітычныя перакананьні, на шовінізм.

Беларускіх сельска-гаспадарчых таварыстваў пакуль што няма, а хоць і ёсьць тыя, якія-б маглі вясьці сельска-гаспадарчую працу (возьмем для прыкладу Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры — гэта ёсьць арганізацыя больш культурна-прасьветная, чымся сельска гаспадарчая), але нажаль, не вядуць.

Хутка, па просьбе нашых сялян, прыехаў у вёску інструктар і залажыў гэтак званае „Kółko Rolnicze“. Сялянэ, нават і старэйшыя, вельмі ахвотна запісваліся. Зараз-жа быў выбраны камітэт гуртка, які энэргічна ўзяўся за працу. І запраўды плады гэтае працы хутка паказаліся. Камітэт выпісаў для сялян лепшага гатунку аўса за невялікую плату: калі грошы сябра плаціць цяпер, дык 10 злотых за пуд, а калі ўвосень, як пажне і намалоціць, дык 11 злотых. Гэта бязумоўна плата невялікая, бо на'т жыды бралі болей за звычайны авёс.

Але камітэт на гэтым не застанавіўся. Ен пастанавіў прыйсьці з дапамогай і жанчынам. Хто жыў даўжэйшы час у вёсцы, той ведае, які клопат мае тут жанчына са льном. Кожны год яна прадае свой лён жыду, а потым далажыўшы сваіх грошай купляе „лепшага“, але гэты „лепшы“ нічым ня розьніцца ад папярэдняга.

Дык вось камітэт пастанавіў выпісаць лепшага гатунку лёну для кабет, што было і зроблена. За пуд лёну трэба было заплаціць 14 зл. Гэта таксама невялікая, у параўнаньні з жыдоўскаю,цана.

Шмат, бо амаль-што большая частка сялян, згадзілася на ўсё гэта і пайшла на спатканьне камітэту. Але камітэт пайшоў у сваёй працы далей. Ен дастаў адзін пуд нейкага штучнага гною (назову ня памятую) і даў аднаму селяніну, каб ён яго зужыткаваў на сваім полі дзеля перакананьня, ці сапраўды штучны гной ёсьць таксама для ральлі.

Рэч у тым, што нашы сялянэ глыбока пераконаны, што толькі натуральны хлеўны гной дае карысьць для ральлі, а аб штучных ніколі, нідзе да гэтага часу і ня чулі. Дык вось дзеля чаго прыходзіцца цешыцца: сам народ, ня гледзячы на падшэпты нашых злыдняў, якія хочуць працу сельска - гаспадарчую, зьмяшаць з палітычнаю, узяўся за працу над пашырэньнем зямельнай культуры і над паляпшэньнем нашага гаротнага жыцьця і ніякія сілы ня ўстрымаюць гэтай працы.

Дык, сялянэ, ідзеце ўсе ў гэтыя хаўрусы (kółka rolnicze), бо толькі шляхам культурна-эканамічнай працы можна дайсьці да дабрабыту. Яшчэ шмат чаго можна было-б вымагаць ад нашага хаўрусу, але на першы пачатак досыць будзе і гэтага, што зрабіў дагэтуль. Але ясна, што на гэтым застаноўлівацца ня трэба, трэба далей вясьці пачатую працу. Астаецца толькі пажадаць і надалей памыснай працы на карысьць народу.

Суседнія вёскі павінны браць прыклад з вёскі Церабостынь. *Тутэйшы.*

# З жыцьця Наваградчыны.

### Дапамога землягобам.

У зьвязку з стратамі, якіх дазналі земляробы паветаў Маладэчанскага, Пастаўскага і Браслаўскага з прычыны бураў і навальніцаў, якія мелі нядаўна месца, камунальныя касы, разумеючы цяжкую сытуацыю пашкадаваных гаспадароў, пастанавілі прыйсьці ім з дапамогай. Агульная сума стратаў 500 тысяч злотых. На скутак просьбаў Банк Краёвага Гаспадарства згадзіўся прыйсьці з дапамогай, даючы адпаведныя пазыкі.

### Будова чугункі Маладэчна — Наваградак.

Справа будовы чугункі Маладэчна—Наваградак, так важнай для нашага краю, штодзень пасоўваецца наперад. Найважнейшай справай бязумоўна зьяўляюцца кошты будовы і сродкі на будову. Як паведамляюць, з дапамогай прышлі тут павятовыя соймікі тых паветаў, праз абшар якіх новая чугунка мае праходзіць. І так, павятовы соймік Маладэчанскага пав., задэкляраваў 25% агульных коштаў будовы лініі, якая будзе бегчы праз гэны павет, пад варункам, што чугунка будзе бегчы ад граніцы Маладэчанскага павету ў кірунку Ракава, а наступна праз Гарадок, Ізабэлін да Маладэчна.

Наваградзкі павет пакрывае кошты будовы чугуначнай лініі ад граніцы павету да станцыі Новаельні, кошты выкупу грунтаў, абшараў пад будову станцыяў і падкладняў пад чугунку.

Слонімскі павет 20% коштаў будовы.

Нарэшце Валожынскі павет ахвяраваў грунт пад чугунку і падкладні пад чугунку з засьцярогай, што чугунка будзе бегчы па лініі вызначанай праз камітэт.

Памінаючы гэныя засьцярогі, трэба сьцьвярдзіць, што кошты будовы, якія згадзіліся пакрыць успомненыя паветы, даволі вялікія. Гэта можа быць довадам, што новая чугунка вельмі патрэбна і што яе значэньне знайшло належную ацэнку.

# Хроніка.

### З жыцьця Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Як падае „Kurjer Wileński“, мае наступіць злучэньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Як ведама, у 1927 годзе пас. Ярэміч, Рагуля і Хрысьціянская Дэмакратыя выйшлі з Нацыянальнага Камітэту і заснавалі другі Нацыянальны Камітэт.

Цяперака, пад уплывам удару, заданага беларускаму грамадзянству прыгаварам паслоў „Грамады“, у беларускім грамадзянстве павеяў дух паяднаньня, праявай якога мае быць злучэньне нацыянальных камітэтаў.

### Сьмерць Лукаша Арэхвы.

9 чэрвеня памёр у Вільні Лукаш Арэхва. Нябожчык быў знаны, як дзеяч у галіне кооперацыі. Сьв. памяці Лукаш Арэхва быў інструктарам

Саюзу Спажывецкіх Хаўрусоў. Няхай беларуская зямелька будзе яму лёгкай!

### 67 гадавіна сьмерці Шэўчэнкі.

7 чэрвеня ў 67 гадавіну сьмерці украінскага народнага поэта Тараса Шэўчэнкі, адбыўся ў салі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры пры Вострабрамскай вул. 8, урачысты вечар, ладжаны стараньнем „Гуртка Студэнтаў Украінцаў“ у Вільні.

Вечар распачаў уступным словам гр. Самборскі. Пасьля хор адсьпяваў „Заповіт“ Шэўчэнкі. Наступна грам. Ольхівський прачытаў рэфэват аб Тарасе Шэўчэнцы. Пасьля выступаў хор пад кіраўніцтвам грам. Матвійця.

Была таксама адыграна п'еска „На перший гулі“. Публікі было шмат.

### Беларус з вышэйшай эдукацыяй.

На днях кончыў унівэрсытэт Сьцяпана Баторага ў Вільні і атрымаў дыплём доктара лекарскіх навук Валеслаў Грабінскі. Валеслаў Грабінскі паходзіць з в. Рачыншчыны, Дуброўскай вол. Сакольскага пав. Ад маладых гадоў працуе на ніве беларускага нацыянальнага ўсьведамленьня. Яшчэ ў расейскай гімназіі ў Горадне належаў ён да гуртка беларускай моладзі.

### Прыгавар у працэсе Камуністычнае Партыі Заходняе Беларусі ў Беластоку.

Прыгаварам Акружнага Суду ў Беластоку за прыналежнасьць да Камуністычнае Партыі Заходняе Беларусі, засуджаны Яхім Шэрцман і Вера Харужы на 8 гадоў катаргі, трох абвінавачаных на 7 гадоў катаргі, 13 на 6 гадоў катаргі, 13 на 4 гады, 22 на 3 гады, 15 на $2^1/_2$ гады, 5 на 2 гады і 10 на 1 год турмы. 26 абвінавачаных апраўдана. Усім абвінавачаным залічыў Суд арышт, так што ўсе засуджаныя на $2^1/_2$ гады зараз выйшлі на волю.

---

# Апошнія навіны.

**Кітай.** Нацыянальная армія пад камандай Чан-Кай-Шэка заняла сталіцу Кітаю, Пэкін. Войскі Чанг-Тсо-Ліна пашлі ў рассыпку. На цягнік, у якім ехаў Чанг-Тсо-Лін з сваім штабам, быў зроблены замах, у рэзультаце якога шмат хто быў забіты. Сам Чанг-Тсо-Лін або забіты, або цяжка ранены.

**Японія.** Японія, якая памагала Чанг-Тсо-Ліну тады, як ён прадстаўляў сабой сілу, цяпер пакінула яго. Японскі ўрад выслаў у Манджурыю гэн. Матэці, каб ён вёў перагаворы з Чан-Кай-Шэкам. Японія мае замер заняць Манджурыю.

Перад некалькімі днямі быў зроблены замах на японскага старшыню міністраў гр. Танаку. Замахоўца арыштавалі. Замах ня меў палітычных прычынаў. Замахоўца заявіў у сьледстве, што замах яго быў пратэстам процiў таго, што ў выніку апошніх выбараў, цяперашняе міністэрства гр. Танакі не падалося ў адстаўку.

**Нямеччына.** Другое паседжаньне новага прускага парлямэнту, у параўнаньні з першым, мела прабег спакойны. На гэтым паседжаньні быў выбраны прэзыдыум парлямэнту. Старшынёй ізноў выбраны соцыялісты Бартэльс, трэцім віцэ-старшынёй выбраны камуністы Швэннэ, які раней забавязаўся точна і лёяльна трымацца рэгуляміну.

**Перад паседжаньнем нямецкага парлямэнту.** На 15 чэрвеня склікаены нямецкі парлямэнт. У гэтых днёх нямецкі ўрад Маркса падаецца ў адстаўку. Місію ўтварэньня новага габінэту атрымае павадыр нямецкіх соцыялістых Мюллер-Франкэн.

**Амэрыка.** У Нью-Іорку памёр сэнатар Роот. Знаны ён з свае дзейнасьці процiў вайны. Нябожчык быў здольным палітыкам. Займаў ён становішча віцэ-міністра вайны і заграніўчных справаў.

**С.С.С.Р.** Пакончыў самазабойствам народны камісар Грузінскай Рэспублікі Аляксандар Гэгэчкоры.

**Цяжкае палажэньне Масквы.** За апошнія месяцы, дзякуючы леваму курсу, бедната сярод насельніцтва Масквы так узрасла, што трудна атрымаць аплату за памешканьне, ня гледзячы на суровыя кары. У мінулым месяцы недабор у аплаце за памешканьні дайшоў да 2 мільёнаў рублёў. Цяпер гэты недабор 10 мільёнаў руб.

**Польшча.** Польшчу адведалі прадстаўнікі румынскай арміі. Румынскіх афіцэраў прыймалі прадстаўнікі польскай арміі. Румынскія афіцэры зложылі візыт Марш. Пілсудскаму.

**Узнаўленьне польска-чэхаславацкіх гандлёвых перагавораў.** Польска-чэхаславацкія гандлёвыя перагаворы пачнуцца ў найбліжэйшыя дні. У Варшаву прыяжджае чэская дэлегацыя на чале з д-рам Фрыдманам.

**Б.С.С.Р.** З Менску паведамляюць, што бальшавіцкія ўлады арыштавалі ў Камайску Аляксандра Вішнеўскага і вучыцельку Гвязьдзікоўскую пад закідам шпіёнства на карысьць Польшчы.

---

# Юрыдычныя парады.

*Пытаньне*: Брат мае маткі памёр 2 лютага 1914 г. Па яго сьмерці, асталася жонка і сын, але ад другога мужа. Я адсудзіў ад іх $^6/_7$ зямлі і будынкаў. Праціўная старана падала апэляцыю, у якой доказвае, што мае права на гэтыя $^6/_7$ маемасьці па даўнасьці. Ці могуць адсудзіць ад мяне гэтых $^6/_7$ маемасьці?

*Адказ*: Суд першае інстанцыі слушна прысудзіў Вам, як першаму сваяку, $^6/_7$ маемасьці дзядзькі, пакідаючы $^1/_7$ часьць для дзядзькавае жонкі. Сын яе мае права да гэтае $^1/_7$ часьці і толькі да гэтага. На судзе трэба даказаць, што даўнасьці ўладаньня ня было, бо гады вайны 1914 — 1920 ня ўлічаюцца да даўнаснага ўладаньня.

**Качанка Сяргей.** *Адказ*: Паводле права аб ка-

масацыі, ваш пляц, калі толькі ўсе пляцы ідуць пад абшар камасаваны, павінен быць залічаны за вамі. Дакумантаў на права ўласнасьці не вымадаецца; калі іх няма, дык доказам уласнасьці зьяўляецца факт уладаньня, на што трэба паклікацца. Калі-ж пляцы астаюцца ў паасобным уладаньні кожнага, дык тады і ваш ня можа быць прырэзаны да камасаванага абшару.

Пільнуйце свае справы і не прапушчайце тэрмінаў, у якія можна абжалаваць пастановы зямельнага камісара.

**Пётра Цішаловіч.** *Адказ:* Падайце скаргу ў Міравы Суд. Калі праведзеная каморнікам граніца нарушана вёскай Пастарнакі, дык справу выйграеце. Самаволяй нічога не даб'ецеся. Падаць трэба ў працягу году ад таго часу, як быў пастаўлены плот.

**Гр. Маліноўскаму ў Вялейцы.** *Пытаньне:* Пасьля сьмерці бацькі, памёршага ў 1918 г., асталося 4 дзесяціны зямлі. Насьледнікаў двое: сын і дачка. Якая часьць насьледзтва прыпадае на долю кожнага?

*Адказ:* Сын і дачка маюць роўныя правы да маемасьці, якая асталася пасьля бацькі; у гэтым выпадку на долю кожнага прыпадае па 2 дзесяціны.

**Майкаву ў Аўласёнках.** *Пытаньне I:* Наша вёска мае свае зямлі 103 дзес. і ёй належыць ад маёнтку сэрвітут, але абшарнік дае толькі 18 дзесяцін па згодзе. Якая доля сапраўды належыць нам і як яе ўзяць?

*Адказ:* Калі не згаджаецеся на 18 дзесяцін замест сэрвітуту, а маеце якія-небудзь дакумэнты, сьцьвярджаючыя сэрвітутнае права, дык зьвярнецеся з просьбай да зямельнага камісара, каб зьлiквідаваў сэрвітут. З Вашага ліста нельга сказаць, колькі дзесяцін Вам належыць, трэба ведаць які абшар зямлі абцяжаны сэрвітутам і якія маеце дакумэнты.

*Пытаньне II:* Ад гэтага самага абшарніка мы хочам купіць зямлю, але пан нам ня хоча прадаць, кажучы, што ён яе ўжо прадаў, але гэта няпраўда. Просім парадзіць, ці мы маем права зямлю гэну купіць і як гэта трэба зрабіць?

*Адказ:* Дагэтуль няма тагога права, якое-б дазваляла Вам забараніць абшарніку прадаць зямлю, каму ён хоча. Калі маёнтак вялікі (больш чым 400 дзесяцін), дык вёска можа атрымаць зямлю з яго, выходзячы на хутары на падставе права аб нарэзцы зямлі з маёнтку для папаўненьня малых гаспадарак (меншых чымся 5-8 дзесяцін). Калі-б былі такія малыя гаспадаркі, прасеце аб пераводзе Вас на хутары і аб папаўненьні малазямельных гаспадарак. На гэткае папаўненьне маеце права.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Гр. Салей Антось**, пошта Пагарэльцы; гр. **Атрахімовіч Мікалай**, пошта Казяны; гр. **Міськевіч Аляксандар**, пошта Мір; грошы атрымалі, газэту ад 1.VI.28 высылаем.

**Гр. Коска Кастусь**, пошта Казлоўшчына: Бліжэйшых інфармацыяў даць Вам ня можам; зьвярнецеся беспасярэдня ў фірму. Паклічцеся на абвестку зьмешчаную ў нашай газэце; адрэс фірмы ў абвестцы пададзены.



Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3